

№ 24 (185)

Чэрвень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



## На тым тыдні...

- Другі этап праекта «Лондан–Мінск–Кампала–Берлін» нядаўна правялі ў Мінску тры драматургі з Вялікабрытаніі, Германіі, Уганды, а таксама беларус Андрэй Курэйчык. У выніку праекта, падтрыманага Лонданскім універсітэтам, павінны з'явіцца чатыры п'есы, створаныя ў кожнай з названых краін. Уражанні ад наведвання гасцямі Беларусі будуць адлюстраваны ў калектыўным творы – п'есе. Планецца, што яна будзе пастаўлена ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.
- Галоўнай тэмай IX Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі, які нядаўна па традыцыі адбыўся ў Маладзечне, стала 125-годдзе пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.
- 19–21 чэрвеня ў Пінску прайшоў Міжнародны семінар «Еўрапейскае Палессе – гаспадарчае значэнне і экалагічная рызыка».



## Ля зарослых імхом акопаў

***Любімым месцам збору грыбоў у маім дзяцінстве быў ні бярэзнік, дзе хаваюцца бабкі, ні сасоннік, дзе пад ігліцай можна знайсці зялёнкі, лісічкі, і нават ні зарослыя травою дарогі, па баках якіх на цябе глядзяць чырвонымі шапачкамі падасінавікі. Кожны раз, калі з бацькам адпраўляліся ў грыбы, я заўсёды ішоў да былых нямецкіх акопаў. Тут – і смаржкі, і лісічкі, і падзялёнкі. Але галоўнае – тут можна палазіць, даведацца, дзе была зямлянка-штаб, дзе стаяла гармата, а дзе – варонкі ад узрываў снарадаў.***

**(Працяг чытайце на стар. 7)**

*Канферэнцыя*

## Пакінем замак нашчадкам

Што чулі некаторыя іншаземцы пра Беларусь? Магчыма, назва «Беларусь» у іх і асацыявалася б толькі з трактарам, аварыяй на Чарнобыльскай АЭС, саюзнікам Расіі ў знешняй палітыцы, калі б не Мірскі замак, які прыцягвае ўсё больш турыстаў з кожным годам.

Узнікненне Мірскага замка датуецца пачаткам XVI стагоддзя і з'ўляецца сведкам падзей жыцця



народа на працягу амаль пяцісот гадоў. Замак сапраўды цудоўным чынам перажыў вайну Расіі і Рэчы Паспалітай 1654–1667 гадоў, затым быў адноўлены ў канцы XVII стагоддзя.

І зноў непрыемнасць: амаль цалкам разбураны і спалены падчас Паўночнай вайны і...

Зноў «паўстаў з попелу»! І што яшчэ больш неверагодна: амаль не пацярпеў у час Другой сусветнай, не гледзячы на тое, што ў Міры было нават гета, і людзі, як сведчаць гісторыкі, хаваліся ў сценах магутнага старажытнага замка. Такім чынам, быццам у казцы, дзе дабро заўсёды перамагае, замак, няхай і не ў адвечным выглядзе, але дайшоў да нашых дзён. Жыхарам Міра ёсць чым ганарыцца. І сапраўды. Мір зараз вядомы ва ўсім свеце. А ў 2000 годзе замак быў уключаны ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКО.

Безумоўна, такі помнік патрабуе адпаведнага ўзроўню рэстаўрацыі. Але ад складання першапачатковага праекта мінула 20 гадоў, і за гэты час шмат чаго змянілася ў жыцці Беларусі, змяніліся і планы на будучае, з'явіліся новыя пытанні і праблемы.

Менавіта таму 16 чэрвеня ў замкавым комплексе «Мір» Міністэрствам культуры, Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь была праведзена навукова-практычная канферэнцыя «Мірскі замак. Канцэпцыя рэстаўрацыі і музеефікацыі». Зразумела, што значная частка элементаў структуры замка назаўсёды страчана, але абавязак сучасных гісторыкаў і рэстаўратараў – зрабіць усё, каб пазбегнуць магчымых памылак. На канферэнцыі прысутнічалі навуковыя супрацоўнікі, людзі кваліфікаваныя, адданыя сваёй прафесіі. Пры такіх умовах працаваць – задавальненне! Навукоўцы прадстаўлялі свае ўласныя ідэі і праекты. Абмяркоўваліся асаблівасці і праблемы рэканструкцыі кафлі, семантыка выяў на іх, эвалюцыя поглядаў на музеефікацыю Мірскага замка... Таксама было прадстаўлена шмат сапраўды цікавай інфармацыі да экспазіцыі. Галоўныя ідэі, закладзеныя раней, былі падмацаваны дакладнасцю і якасцю канцэпцыі ў рэстаўрацыі, новай глыбінёй распрацоўкі. Было прынята рашэнне аб стварэнні сайта ў Інтэрнеце і новай кніжкі па рэстаўрацыі кафлі.

Зразумела, што наперадзе шмат работы і шмат падзей. Людзі з розных краін свету заўсёды будуць вяртацца да таямніц існавання Мірскага замка. А на мой уласны погляд, лёс замка знаходзіцца ў руках працаўнікоў адказных і выдатных у сэнсе ведаў. І ёсць падстава спадзявацца, што не будзе сорамна перад нашчадкамі за страчаную культурную спадчыну...

*Вольга БАЖЭНАВА,*
*школьніца г. Мінска.*
*Фота Чэнь Хао*





# «Куточак зямлі, дзе бярозкі шумяць...»

*Куточак зямлі,*
*дзе бярозкі шумяць,*
*Дзе ясныя зоркі*
*ў руні глядзяць,*
*Дзе клёкат бусліны*
*нам песняй гучыць –*
*Куточак зямлі,*
*як цябе не любіць?!*
*Куточак зямлі,*
*на якой мы жывём, –*
*Ласкава цябе*
*Навасёлкі завём.*

Навасёлкі... Ціхая, невялічкая, прыгожая вёска. Яна знаходзіцца за восем кіламетраў ад раённага цэнтра Нясвіжа. Частка вёскі размешчана на шляху, які злучае Нясвіж са Стоўбцамі.

Ціхая і спакойная наша вёска, і такія ж людзі насяляюць яе. Да лістапада 1992 года ў Навасёлках не было ні клуба, ні бібліятэкі. І вось гасцінна адчыніў свае дзверы прыгожы Дом культуры, дзе знайшлося добрае памяшканне і для бібліятэкі.

Зараз вёску зрабілі аграгарадком, а Дом культуры змяніў назву на Навасёлкаўскі сельскі цэнтр культуры і вольнага часу (СЦКіВЧ). Мы праводзім народныя святы «Маслёнка, Маслёнка, бывай зіма красненька», «Святая ноч», «Як улетку на Купалу», зажынкі – «Хлебную ніву песняй абудзілі», дажынкі. У цэнтры працуюць гурткі: тэатральны «Аматары слова», роспісу па дрэве «Чароўны пэндзлік», мастацкай апрацоўкі тэкстыльных матэрыялаў, габеленаў. Існуюць жаночая, дзіцячая вакальная групы, гурткі індывідуальнага выканання.

У бібліятэцы з нагоды 125-годдзя нараджэння двух знакамітых і славутых песняроў беларускай зямлі Янкі Купалы і Якуба Коласа праходзяць культурна-асветніцкія мерапрыемствы. Літаратурныя, паэтычныя, інфармацыйныя вечары, гадзіны «За дубовым сталом пішу залатым пяром», «Казкі жыцця Якуба Коласа», «Пясняр беларускай зямлі – Янка Купала», «Ён пісаў і жыў для народа».

Працуюць у цэнтры вельмі маладыя, энергічныя людзі. Наш калектыў імкнецца, каб наведвальнікі прыходзілі да нас не пасіўнымі гледачамі, а актыўнымі ўдзельнікамі ў падрыхтоўцы і правядзенні розных мерапрыемстваў, у распрацоўцы цікавых форм арганізацыі адпачынку.

Для многіх, хто прыходзіць да нас, цэнтр стаў любімым месцам адпачынку, дзе ўсіх чакаюць прыемныя сюрпрызы. У гэтым ёсць безумоўная заслуга маладых спецыялістаў: Алены Уладзіміраўны Акулы – кіраўніка гуртка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, бібліятэкара Юліі Міхайлаўны Максімовіч, мастацкага кіраўніка Ліліі Сяргееўны Анікеевай. А кіруе нашым калектывам дырэктар Наталля Канстанцінаўна Яцкевіч.

Любая ўстанова культуры будзе прыцягальнай тады, калі ў ёй створана атмасфера даверлівасці, сяброўскай цеплыні, творчага натхнення.

***Юлія МАКСІМОВІЧ,***
***бібліятэкар Навасёлкаўскай сельскай бібліятэкі Нясвіжскага раёна***



*Палац у Гарадзеі*
*на малюнку Напалеона Орды*



*Фрагмент карціны Івана Трутнёва «Сцэна з рэвалюцыі 1905 г. у Вільні»*

# Рэвалюцыянер-меншавік з Рагачова

***Гісторыя кастрычніцкіх падзей, перыяд усталявання савецкай улады ў 1917 годзе на прасторы Расійскай імперыі былі звязаны фактычна з партыяй бальшавікоў. Пра астатняе, пра астатніх ці то маўчалі, ці то ахайвалі. Такі быў час. Сёння прыадкрыты многія заслоны. З невядомасці, з забыцця паўстаюць шматлікія імёны.***

Адзін з невядомых для нас удзельнікаў кастрычніцкіх падзей – і наш зямляк Давід Далін (сапраўднае прозвішча Левін). Нарадзіўся ён у Рагачове ў 1889 годзе. Пражыў доўгае жыццё, пакінуўшы гэты свет у 1962 годзе, 21 лютага – у Нью-Йорку, дзе знаходзіўся ў палітычнай эміграцыі. Але ж аб усім па парадку.

Давід Левін (партыйны, палітычны псеўданім ён возьме пазней) вучыўся ў Віленскай гімназіі. Якімі былі для хлопчыка гэтыя гады? Можна хіба толькі здагадвацца з той альбо іншай доляй верагоднасці. Класічная гімназія патрабавала высокага напружання, вялікага старання ў вучобе. Пасля Вільні – Пецярбург, завяршэнне гімназічнай адукацыі. А следам – і вучоба на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, дзе і пачаўся ўдзел Давіда ў студэнцкім руху. Калі юнаку быў 21 год, яго арыштоўваюць. Пасля нядоўгага астрожнага заключэння Левін эмігрыруе. Дапытлівы, апантаны ідэяй перабудовы грамадства, малады чалавек займаецца навукай. Вывучае палітычную эканомію ў Берлінскім і Гейдэльбергскім універсітэтах. Ужо ў 1913 годзе абараняе ў Гейдэльбергу доктарскую дысертацыю.

З дня ў дзень, наколькі гэта дазваляюць магчымасці, малады вучоны цікавіцца падзеямі ў Расіі. А пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года вяртаецца ў Пецярбург. Адразу ж далучаецца да меншавікоў, займае прыкметнае месца ў іх інтэрнацыяналістычным крыле. Давіда Левіта (Даліна) выбіраюць у Маскоўскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Таварышы па рэвалюцыйнай барацьбе даручаюць рэдагаванне газеты «Печатник». Наш зямляк праяўляе высокую адданасць, супрацоўнічае з цэнтральным органам меншавікоў – «Рабочей газетай». Друкуецца ў горкаўскім выданні «Новая жизнь». У жніўні 1917-га на меншавіцкім з'ездзе Даліна выбіраюць кандыдатам у члены ЦК РСДРП (аб'яднанай).

На змену палітычнай, рэвалюцыйнай актыўнасці Даліна ў хуткім часе прыходзіць рэзкае непрызнанне і асуджэнне Кастрычніка. Якія ж прычыны гэтага? Чаму перамены, якіх не першы год дамагаўся асабіста, раптоўна перастаюць быць жаданымі? Часткова адказ – і ва ўспамінах самога Давіда Юльевіча. У 1988 годзе ў Вермонце пабачыла свет кніга «Меншавікі». Сярод іншых публікацый – і артыкул нашага земляка. І вось якая ў Даліна згадка пра Кастрычніцкую рэвалюцыю 1917 года: «Ад Кастрычніцкага перавароту застаўся ўспамін – уражанне аб дзіўнай слабасці супраціўлення, якое аказалася ніжэйшым за ўсялякія чаканні. Бязвусыя юнкеры і жаночыя батальёны выходзілі са зброяй на адно імгненне. Па-за Петраградам мясцовыя ўлады, хоць і не заўсёды без бою, хутка ўступалі. Керанскі ездзіў у пошуках дапамогі – і нічога не знайшоў. Шматмільённы фронт прыняў і фактычна прызнаў новы ўрад. У краіне адчувалася абуджэнне, але яшчэ шмат месяцаў заставалася да фарміравання вялікіх белых армій». Нежаданне бальшавікоў будаваць цывілізаваную ўладу, якая б улічыла клопаты ўсіх сацыяльных груп насельніцтва, вывела Даліна на другі бок барыкад. І ўсё ж Давід Юльевіч стараўся (і заклікаў да гэтага паплечнікаў) быць убаку ад лагеру ўзброенага супраціўлення бальшавікам.

У лістападзе – снежні 1917 года Далін прымае ўдзел у надзвычайным з'ездзе РСДРП. Гэта быў ці не апошні з'езд, дзе бальшавікам і пра бальшавікоў сказаў праўду. Але ўсе праціўнікі Кастрычніка разумелі: за бальшавікамі – магутны атрад пралетарыяту. І фактычна захоп улады імі стаў магчымым толькі таму, што папярэдняя, Лютаўская, рэвалюцыя не задаволіла патрэб шырокіх мас у спыненні вайны, перадачы сялянам зямлі, у рэгуляванні гаспадарчага жыцця краіны. Але ж трэба шукаць выйсце. Многія яго бачылі ў стварэнні рэвалюцыйнага адзінства паміж пралетарыятам і дробнабуржуазнай дэмакратыяй. Бальшавікі зрабілі іншы выбар, схіліўшыся да дыктатуры.

Далін стаў непатрэбны рэвалюцыі. Неаднойчы новая ўлада яго арыштоўвала. А ў 1921 годзе Даліна выслалі за мяжу. Выходзіць, што пашчасціла. У Берліне Давід Юльевіч пачаў супрацоўнічаць у «Социалистическом вестнике». Часопіс заснаваў у Берліне Юлій Мартаў, які пакінуў Расію яшчэ ў кастрычніку 1920 года. У лютым 1921-га Далін адправіўся на Венскую канферэнцыю – дэлегатам ад РСДРП. Якраз там быў заснаваны так званы Венскі Інтэрнацыянал, які аб'ядноўваў цэнтрысцкія сацыялістычныя партыі. Праіснавала гэтае аб'яднанне не дужа доўга – да 1923 года. Давід Юльевіч стараўся па-рознаму займацца палітыкай. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні германскай сацыял-дэмакратычнай перыёдыкі.

У 1940 годзе наш зямляк пераехаў за акіян. У ЗША ад палітычных клопатаў як практык адышоў. Заняўся палітычнай гісторыяй. Напісаў ажно 11 ёмістых манаграфій, прысвечаных самым розным абсягам савецкай унутранай і знешняй палітыкі... Такі вось пакручасты лёс ураджэнца Рагачова, вучонага, палітыка, публіцыста, Давіда Левіна, якога рэвалюцыйны рух зрабіў Давідам Даліным. Чамусьці імя гэтае ў беларускім краязнаўстве, у кантэксце гісторыі Рагачова замоўчваецца. Дарэмна. Зробленае, пераж ытое Даліным – хіба ж не часцінка гісторыі краіны?..

***Кастусь ЛАДУЦЬКА***







## Купалле

*Шапталіся ў цішы яліны між сабой,*
*На варце што былі ля старых курганоў.*
*Там кветка-папараць цвіла дзесь за гарой,*
*Яна нас вабіла і ўзбуджала кроў.*
*На ўсю ваколіцу тады наш смех гучэў.*
*Было нам весела і маладзік між зор*
*Да шлюбу заклікаў, пярсцёначкам бліщчэў.*
*А рэха клікала нас у зялёны бор.*
*На век запомніцца, не пераменіць час*
*Маркотны шум ялін і мяккі, цёплы мох,*
*І тую ночаньку, што ахінала нас...*
*А ў валасах маіх заблытаўся вятох.*

*Мікола ЛАВІЦКІ, г. Мінск*



***У свой час мы паведамлялі, што некаторымі магілёўскімі краязнаўцамі ў сакавіку 2005 года была заснаваная грамадская ініцыятыва «Асацыяцыя краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны», а таксама змяшчалі асобныя даследаванні з матэрыялаў Першых краязнаўчых чытанняў гэтай суполкі.***

***Летась, напрыканцы года, у Клімавічах адбыліся Другія краязнаўчыя чытанні, а нядаўна пабачыў свет друкаваны зборнік даследаванняў 17 краязнаўцаў, сярод якіх музейныя супрацоўнікі, выкладчыкі сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, журналісты, гісторыкі, бібліятэкары. Прадмову да зборніка напісаў сябра яго рэдакцыйнай калегіі, вядомы краязнаўца і пісьменнік Міхась Карпечанка.***

***Прапануем увазе чытачоў адзін з матэрыялаў новай вышэйназванай брашуры магілёўскіх краязнаўцаў.***

# Вопыт развіцця мястэчак – залог будучыні аграгарадкоў

*Хто не ведае гісторыю, той не разумее сучаснае і не прадбачыць будучае. Гэта шырока вядомае сцверджэнне сёння набывае вельмі актуальнае значэнне ў нашай краіне. Але мы забылі, не прымаем да ўвагі вышэй названую мудрасць. Дарэмна. Будучую жыццяздольнасць аграгарадкоў, вельмі падобных на старадаўнія мястэчкі на сваёй гаспадарчай ролі, напэўна, лягчэй забяспечыць пры ўмове шматукладнай вытворчасці. Апошняя павінна грунтавацца на законах прыродна-тэрытарыяльнага і сацыяльна-культурнага развіцця, як гэта рабілася праз вопыт стагоддзяў мястэчак і сёл.*

Ўзнікае пытанне: колькі пражывуць нашы аграгарадкі, асабліва тыя, у якіх ужо зараз ёсць незаселеныя новенькія катэджы. Сірацінкамі стаяць яны ў чыстым полі, глядзяць пустымі вачніцамі вокан як сведчанне некампетэнтнасці будаўнікоў у пытаннях выбару месца для аграгарадкоў з пункту гледжання гісторыі. Калі б яны ўзялі спіс землеўладальнікаў раёна ды паглядзелі, дзе раней былі іх сядзібы, маёнткі, фальваркі – лягчэй было б тады па гэтым прыкладзе будаваць аграгарадкі. Становіцца відавочным, што здабытыя краязнаўцамі матэрыялы пра шматгадовы вопыт нашых продкаў могуць дапамагчы ў вырашэнні галоўных праблем: як павінна адбывацца эканамічнае, сацыяльна-адміністрацыйнае і культурнае развіццё сучаснага аграгарадка.

Звернемся да гісторыі. У Магілёўскім Пасожжы мястэчкі ўзнікалі як цэнтры пэўнай канцэнтрацыі сельскага насельніцтва. Напрыклад, адны з іх геаграфічна фарміраваліся ў межах распаўсюджання лёсападобных суглінкаў – найболып урадлівых глеб (гістарычная вобласць Басея). Іншыя з'яўляліся на ўсходзе канечна-марэнных узвышшаў рэльефу Аршанска-Магілёўскай раўніны. У Х–ХІІ стст. тут ужо былі вядомы старажытныя гарады: Расна і Радамля, Галачічэск – сучасны Галоўчын Бялыніцкага раёна (1071 г.), Мсціслаў (1135 г.), Крэчут (Крычаў; 1136 г.). Гэтыя гарады былі адміністрацыйна-ваеннымі цэнтрамі са сваім пэўным наборам несвабод некаторых катэгорый насельніцтва, перш за ўсё земляробаў і рамеснікаў, што адлюстроўвалася: 1) адсутнасцю ў вясковым жыцці магчымасці вызначыцца сваім багаццем; 2) рэалізаваць рамесніцкія здольнасці з захаваннем прыхільнасці да землекарыстання; 3) самарэалізацыя шматколернай сялянскай натуры з калектывісцкімі схільнасцямі або без іх (сёння яшчэ індывідуальныя, «хутарскія» інтарэсы дзе-нідзе праяўляюцца ў нашым жыцці). Магчымай прычынай праяўлення калектывізму служыць генетычная слабасць асобнай натуры. Але апошняя, што падкрэсліваецца і на генетычным узроўні, наадварот шукае безкантактныя мясціны (хутары, выселкі). Гэты момант улічваўся, напрыклад, пад час рэформаў Сталыпіна, калі сялянам дазвалялася жыць асобна на хутарах і абрубах. Найбольшую шкоду, на нашу думку, прынесла перасяленне на цэнтральныя сядзібы з неперспектыўных вёсак. А рабіць гэтага, як бачна, было не трэба, тым больш што сельскаму жыхару сёння прыходзіцца дажываць свой век у паміраючых вёсках.

Гісторыя гаспадарчай дзейнасці насельніцтва нашага рэгіёну адлюстроўваецца эканамічна-тэрытарыяльнай адметнасцю і разнастайнасцю (горад, мястэчка, сяло, вёска, пасёлак, хутар, выселкі; маёнтак, фальварак і г.д.). Склалася сістэма рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў, што стварыла ўмовы для фарміравання пэўных псіхалагічных, ментальных асаблівасцей раёна. Безумоўна, сучасны ўклад жыцця змяніў наша насельніцтва, але не ўлічваць вышэй сказанае нельга. Да прыкладу, тыя ж развітыя дзяржавы маюць добраўпарадкаваныя гарады, высокаэфектыўную эканоміку з энергаёмістай і рэсурсазберагальнай прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, у большасці фермерскай. Таму гэтыя краіны дасягнулі значнага ўзроўню сацыяльнага і эканамічнага жыцця, павелічэння дабрабыту свайго насельніцтва. Вось чаму карысным будзе і вопыт гаспадарання нашых старадаўніх мястэчак.

Сёння мы выкарыстоўваем выдатны вопыт галандскіх тэхналогій у жывёлагадоўлі, але чаму забываем пра вопыт нашых продкаў, які правераны часам. Мы імкнемся знайсці рацыянальны падыход у вырашэнні энергетычных праблем, а беларусы здаўна ведалі, напрыклад, пра энергію ветру і вады, эфектыўна выкарыстоўвалі іх на карысць сваёй гаспадаркі. Вось і вёска Благавічы, вядомая з 1560 г. як сяло ВКЛ, дасягнула свайго росквіту ў пачатку ХХ ст. Яшчэ ў 1902 г. 1 092 жыхары гэтай вёскі займаліся земляробствам, кавальскай, шавецкай, кравецкай справамі і стэльмашаствам, а мясцовы памешчык меў тут вадзяны млын і бровар, даход з якіх складаў 400 рублёў у год. Побач, праз рэчку, быў фальварак у вёсцы Каласоўшчына, а ў Благавічах была карчма. А цагляная Свята-Мікольская царква пабудавана была на грошы 800 вернікаў, кожны з якіх дабраахвотна ахвяраваў на Божы храм па 2 рублі. Улічваючы, што ў той час карова каштавала 3 рублі, гэта былі не малыя грошы. Адсюль вынікае, што грошы ў сялян былі, а значыць, і жылі яны нядрэнна. Прычым здаўна.

Пошукі археалагічных помнікаў, зробленыя аўтарам на працягу 1992–2006 гг., паказалі, што ў ваколіцах вёскі Благавічы людзі пачалі жыць з часоў сярэдняга каменнага веку (мезаліту). Цікавым з'яўляецца тэрытарыяльнае супадзенне месцазнаходжанняў каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў, эпохі сярэднявечча і феадалізму з сучаснымі межамі забудовы вёскі. Даследаванні паказалі таксама сувязь пасяленняў усіх часоў з крыніцамі, што тлумачыцца патрэбнасцю старажытных людзей у якаснай пітной вадзе. На жаль, сёння ў вёсках вада, нават падземная, горш за «гарадскую», таму вельмі карысным будзе аднавіць у сельскай мясцовасці, і асабліва ў аграгарадках, крыніцы (і не толькі вады, але духоўнасці і культуры). Добра, канечне, што аднаўляюцца храмы, адраджаюцца традыцыі і рамёствы, але не ўсё і не заўсёды эфектыўна. Раней у мястэчках два-тры разы на год і на вялікія святы адбываліся невялікія «таржкі», праходзілі кірмашы. Для гандлю спецыяльна было вызначана месца, дзе існавалі лаўкі, корчмы, піцейныя дамы ці харчэўні. Але з цягам часу ўсё гэта адыходзіць у небыццё, як, напэўна, і ўклад самых паселішчаў. Аднак на дадзеным этапе памяць аб мінулым, аб жыцці нашых продкаў трэба захоўваць і вывучаць для падрастаючых пакаленняў, каб праз справы мінулага нам было прадбачна будучае.



*Храмы, пляцы і рынкі...*







*... праквавечнасць мястэчак*

***Мікалай ШАМРО,***
***настаўнік, Чавускі раён***



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–23)*

Як лічаць даследчыкі, з гэтага часу Купала ўжывае ў подпісе пад творамі новае імя – не Янук, а Янка. У маі ён заканчвае выдатную паэму «Курган» і, глыбока засмучаны трагічнай смерцю 20-гадовага публіцыста і першага прафесійнага беларускага крытыка Сяргея Палуяна, твор прысвячае менавіта яму. Дарэчы, гэтая паэма пабачыла свет у «Нашай Ніве» чамусьці толькі праз два гады (факсіміле першых 7 строф чарнавога аўтографа – у часопісе «Чырвоная Беларусь» у 1932 годзе, а поўны аўтограф яе знаходзіцца ў Лонданскай бібліятэцы і музеі імя Ф. Скарыны).

У чэрвені разам з Б. Эпімах-Шыпілам і А. Грыневічам (1877–1937; збіральнік і папулярызатар беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар; яго выдавецтва ў 1910–1913 гадах выдала 11 кніг, у тым ліку і творы Купалы і Коласа) пабылі ў Фінляндыі, таксама і каля знакамітага вадаспаду Іматра. У выніку паездкі ён піша верш «Над Іматрай», эсэ «З Фінляндыі». Тады ж, у чэрвені, знаёмы Купалу па працы на бровары ў Яхімоўшчыне, настаўнік А. Посах у час замежнай паездкі наведаў на Капры вельмі папулярнага сярод расійскай інтэлігенцыі М. Горкага і бліжэй пазнаёміў таго з некаторымі творамі Купалы. Па ўспамінах падарожніка, «Горкі быў у захапленні ад прастаты паэзіі Купалы, ад любві, з якой аўтар гаворыць аб мужыку. Прасіў успомніць і прачытаць іншыя яго вершы.» У ліпені «Наша Ніва» паведаміла, што Купала стаў аўтарам новай кнігі – «Адвечнай песні».

Знаходзячыся далёка ад Бацькаўшчыны і жывучы паўнакроўным жыццём, маючы плённыя поспехі, Купала не можа задаволіцца толькі сваім, пільна сочыць за тым, што там адбываецца, глыбока перажывае за агрэсіўныя адносіны да беларускай мовы і літаратуры, у прыватнасці, у шавіністычных і нізка брыдкіх і подлых выпадах «Виленского вестника», «Минского слова», «Новой Руси», а таксама газеты «Dzień» супраць «Нашай Нівы», і піша кароткі, але рэзкі артыкул «Ці маем мы права выракацца роднай мовы». Ды і «Наша Ніва» ўяе ж абарону здолее апублікаваць гэтую водпаведзь чарнасоценцам толькі ў 1914-м. У ліпені-жніўні з-пад пяра Купалы з'яўляецца паэма «Сон на кургане» (асобным выданнем выйдзе ў 1913-м).

Купалаў талент расце, шырэе, глыбее, знаходзіць усё больш і больш яго прыхільнікаў, але іменна гэта ўсё больш і больш злуе непрыяцеляў з усіх бакоў. Скажам, польскі крытык мо і з беларускім прозвішчам Пяткевіч у тагачаснай варшаўскай газеце «Prawda» не столькі аргументаванымі літаратуразнаўчымі доказамі, колькі са звычайнай непрыязнасцю абнеслаўляе і «Адвечную песню» Купалы, і ўсю беларускую літаратуру. У верасні «Наша Ніва» змяшчае ўхвальную рэцэнзію Ул. Самойлы на «Адвечную песню» і адказ А. Бульбы вышэйназванаму крытыку. У кастрычніку ў выдавецтве А. Грыневіча працягваецца праца над новым Купалавым шэдэўрам – над «Гусляром». Мабыць, упершыню аўтар паскардзіцца на свайго дабрадзея, на Эпімах-Шыпілу, за тое, што той, «баючыся, каб гэты зборнік не прынёс яму столькі клопату, колькі «Жалейка», выкінуў усё тое, што магло не спадабацца цэнзуры, і на ўсякі выпадак надрукаваў зборнік адной лацінкай, каб лягчэй было абысці цэнзара». Але, як зазначалася вышэй, Купалаў дабрадзей высакародна вызначыўся ў іншым: ён не знішчыў абачліва апушчаныя паэтавы творы, а захаваў іх для будучыні.

# Аўтографы ў Вялікакракоцкай бібліятэцы

***Вёску Вялікая Кракотка, што на Слонімшчыне, Уладзімір Караткевіч назваў самай найпрыгажэйшаю вёскай у свеце. А Янка Саламевіч, які адсюль родам, неяк сказаў мне, што Кракотку найпрыгажэйшаю вёскай Караткевіч назваў з-за яе шыкоўнай прыроды. Але вёска не толькі прыгожая, але і знакамітая. Знакамітая Вялікая Кракотка найперш тым, што яшчэ ў 1927 годзе пры гуртку Таварыства беларускай школы (ТБШ) вясковая моладзь заснавала тут бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя песняра беларускага народа.***

Кожны раз, калі сюды еду, на думку прыходзяць радкі з верша Міколы Арочкі, прысвечанага Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы імя Янкі Купалы:

*Мой цэлы свет: Вялікая Кракотка,*
*Часоў бурлівых родны мацярык.*
*Была Кракотка, як рака ў паводку.*
*Была Кракотка – гнеў, і боль, і крык,*
*...Нязломны дух... Жывая сіла мовы.*
*Жыву з тых дзён я вашаю красой.*
*Жыткевічы... Збраевіч... Трафімовіч...*
*Ля вас я грэўся словам і душой...*

Не выпадкова ў гэтых паэтычных радках Мікола Арочка ўспамінае прозвішчы Жыткевічаў, Збраевіча і Трафімовіча. Бо арганізатарамі ТБШ і бібліятэкі ў той нялёгкі 1927 год у вёсцы былі Рыгор Акулевіч, Сцяпан Ігнатовіч, Васіль Трафімовіч, Сямён Жыткевіч, Павел Таўлай, Кастусь Петручэня і іншыя вясковыя хлопцы.

Сваю працу кракоцкая моладзь пачала з таго, што сабрала сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне – хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках працаваў Сямён Акулевіч.

Найбольшае папаўненне бібліятэка атрымала ў канцы 1928 года, калі кніжны фонд склаў адну тысячу экзempляраў.

Праіснаваўшы каля двух гадоў, бібліятэка – чытальня імя Янкі Купалы ў 1929 годзе была зачынена польскай паліцыяй, а кнігі канфіскаваны. Затым пачаліся рэпрэсіі супраць актывістаў, многіх без суда і следства кінулі ў канцлагер Картуз-Бяроза.

У верасні 1939 года ў вёсцы Вялікая Кракотка гэтую слаўную купалаўскую бібліятэку зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена – ужо гітлераўскім нашэсцем.



*Я. Купала і Зм. Бядуля ў 1914 годзе*
*(з карціны Я. Ціхановіча і І. Давідовіча)*

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі – жнівень 1946 года, пасляваенны час. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца» паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана назначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Трыццаць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы.

Многія пісьменнікі дарылі кнігі з аўтографамі асабіста яму як чалавеку, які любіў сваю справу і шырока прапагандаваў родную літаратуру і культуру. Гэтыя кнігі Аляксандр Іванавіч Жыткевіч пакідаў у бібліятэцы, каб чыталі вяскоўцы. Яны ёсць і сёння. «Дарагому Аляксандру Іванавічу Жыткевічу і вялікаму сябру кнігі з сардэчнай павагай Мікола Арочка», – аўтограф земляка на кнізе «Крылатае семя». Піліп Пестрак на сваёй кнізе «Неспадзяванак» зычыў «Жыткевічу Аляксандру – ад шчырага сэрца».

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі. Сустрэчы з гэтай жанчынай Аляксандр Жыткевіч (у 1999 годзе яго не стала) заўсёды ўспамінаў з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй. Яна была вельмі задаволена, што бібліятэка на Слонімшчыне носіць імя Янкі Купалы.

Дзякуючы цётцы Уладзі, для бібліятэкі прыслалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і многія іншыя дзеячы нацыянальнай літаратуры.

У 1957 годзе бібліятэку наведалі Пятрусь Броўка, Янка Брыль і Іван Шамякін. Пятрусь Броўка падараваў бібліятэцы свой двухтомнік. На першым томе ён напісаў: «Бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. З вялікай пашанай да яе прыхільнікаў і актыўных чытачоў. Пятрусь Броўка. 29.5.1957 г.». Свае аўтографы бібліятэцы тады пакінулі Янка Брыль і Іван Шамякін.

У 1961 годзе свой двухтомнік з аўтографам прыслаў з Мінска Янка Брыль: «Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы – з зямляцкай павагай і найлепшымі пажаданнямі Янка Брыль. Мінск, 6.01.61 г.».

На святкаванне 30-годдзя бібліятэкі ў 1957 годзе ў Вялікую Кракотку прыехалі з Мінска Максім Лужанін, Рыгор Няхай, Пятро Прыходзька, супрацоўнікі музея Янкі Купалы, якія з сабою ў якасці падарунка прывезлі каля 50 кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. «Кракоцкай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў дзень яе слаўнага трыццацігоддзя ад аўтара Пятра Прыходзькі», – так напісаў на сваёй кнізе «Салдаты міру» гэты паэт-франтавік.

У 1972 годзе Вялікакракоцкая бібліятэка адзначала 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У вялікім літаратурным вечары, які праходзіў у Вялікай Кракотцы, прымалі ўдзел паэты Сяргей Грахоўскі, Алег Лойка, Анатоль Іверс, Янка Саламевіч і іншыя літаратары. Як памяць пра сустрэчу захоўвае бібліятэка іх кнігі з аўтографамі. З вялікай радасцю чытаю аўтограф Сяргея Грахоўскага на кнізе «Тры вымярэнні»: «Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. Жадаю жыць у шчасці, любіць і шанаваць ніву, засеяную Купалавай шчодрай рукою».

Захоўваюцца ў бібліятэцы сёння і кнігі пісьменнікаў з аўтографамі Алеся Якімовіча, Міколы Аўрамчыка, Леаніда Прокшы, Івана Навуменкі, Сяргея Панізьніка і многіх іншых нашых творцаў. Але самая каштоўная рэліквія, якую захоўвае бібліятэка, – гэта аўтограф Якуба Коласа. У 1952 годзе з Мінска ён прыслаў бібліятэцы сваю кнігу «Адшчапенец», выдадзеную ў 1950 годзе. На ёй чарнільнай ручкаю напісана: «Бібліятэцы імя Янкі Купалы вёскі Вялікая Кракотка Якуб Колас. 2.8.1952 г.».

***Аўтографы ў Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы імя Янкі Купалы – гэта наша гісторыя і наш літаратурны скарб, які трэба шанаваць як памяць пра тых, хто тут быў, жыў і жыве. Дарэчы, бібліятэка ў Вялікай Кракотцы ў 2005 годзе набыла новы статус і стала цяпер бібліятэкаю-музеем імя Янкі Купалы.***

***Сяргей ЧЫГРЫН***
***(«Куфэрак Віленшчыны», № 1, 2006 г.)***

## Любоў жыве і сёння

*– Не буду называць усіх, хто мне дарагі і блізкі. Давялося б назваць багата імёнаў, якія складаюць гонар і сусветнай паэзіі, і нашай, беларускай. Спынюся на тых, хто, можа, найбольш вызначыў мой творчы лёс і прычыніўся да майго духоўнага развіцця. На тых, каго зведаў і палюбіў з дзяцінства, з самых першых прачытаных кніг.*

*Мне вельмі пашчасціла, што ў майго бацькі была неблагая беларуская бібліятэчка – «Шляхам жыцця» Янкі Купалы, «Вянок» Максіма Багдановіча, «Сымон-музыка» і «Выбранае» Якуба Коласа – усё віленскага выдання. Іх я ледзьве не першымі прачытаў у дзяцінстве, у час Вялікай Айчыннай вайны. Шмат разоў я іх перачытаў, ім абавязаны сваімі першымі вершаванымі спробамі.*

*Купала тады быў для мяне самым блізкім. Вельмі свойскі, зразумелы, Купала здаваўся і загадкава-рамантычным, трошкі прыўзнятым над паўсядзённай рэальнасцю. У ім адчувалася наша глыбока нацыянальнае, вельмі беларускае. Гэтая любоў, народжаная ў маленстве, жыве ўва мне ўсё свядомае жыццё.*

**Алег ЛОЙКА**

# «І дзе знайсці мне тыя словы...»

## Успаміны пра маму

*(Заканчэнне. Пачатак у № 23)*

У нас не было і духу пагоні за модай, за дарагімі рэчамі, мэбляй, вопраткай. Не было ні дарагіх пярсцёнкаў, завушніц, залатых і іншых каштоўных рэчаў. Уся абстаноўка была вельмі сціплай. Многія людзі тады ледзь зводзілі канцы з канцамі, і вылучацца ў нас лічылася проста непрыстойным.

На светапогляд маці вялікі ўплыў аказаў Леў Талстой сваёй літаратурай і філасофіяй. Яна лічыла неабходным заўсёды рабіць людзям дабро, ніколі не помсціць, выкараняць зло дабрынёй. Вельмі цяжка перажывала масавы тэрор у часы сталіншчыны, голад і здзек над людзьмі. І раскулачванне сялян – чэсных, працавітых, ні ў чым не вінаватых людзей, і арышты інтэлігенцыі, таксама бязвіннай. Велізарнае значэнне прыдавала яна адукацыі, лічыла асвету ледзь не панацэяй ад усіх бедаў. Угаворвала і ўпрошвала ўсіх блізкіх і знаёмых атрымаць вышэйшую адукацыю, усяляк імкнулася спрыяць у гэтым.

У час грамадзянскай вайны бацькам сустрэлася шматдзетная сям'я беларусаў – бежанцаў з Гродзеншчыны. Яны былі ў надзвычай цяжкім становішчы, галадалі. Хаця і нам нялёгка жылося на чужыне, усё ж бацькі ўзялі ў сям'ю 8-гадовую дзяўчынку Вольгу Прачук. Яна жыла ў нас у 20–30-я гады, скончыла школу, педагагічны тэхнікум і, нарэшце, фізмат Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Толькі пасля гэтага яна пайшла ў самастойнае жыццё.

Доўгі час расла і выхоўвалася ў нашай сям'і і дзяўчынка-сірата Жэня Увядзенская, далёкая родзічка мамы. І яна скончыла медыцынскі тэхнікум, выйшла замуж за майго сябра Уладзіміра Петухоўскага, цяпер жыве ў Ленінградзе.

Пры нас жыў як член сям'і брат мамы – Аляксандр Дзмітрыевіч Каменскі. Ён быў школьным настаўнікам, сваёй сям'і не меў. Хваля сталінскага тэрору не абышла і гэтага чалавека. 6 лютага 1938 года ён быў арыштаваны і сасланы ў лагер паблізу ад Салікамска на Урале. Горка перажывалі ўсе мы ягоны трагічны лёс, а найбольш мама. Яна пасылала харчовыя пасылкі любімаму брату. Марнымі аказаліся хадайніцтвы бацькі. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны зрэдку ішла перапіска. Недзе там мамін брат і загінуў...

Вельмі цяжка перажывала мама і лёс сярэдняга сына Юркі. Ён з пачатку вайны быў на фронце. Апошні ліст мы атрымалі ад яго 20 верасня 1941 года з горада Ярцава, што пад Смаленскам. Пасля нашы пісьмы да Юркі вярталіся назад. Заставалася слабая надзея, што Юрка змагаецца ў партызанах ці, барані божа, пакутуе ў варожым палоне. Бацька ў сваім дзённіку піша 30 красавіка 1944 года: «...Бедная Маруся, яна засталася адна ў хаце, рыхтуецца да заўтрашняга дня. Успомніла дзень нараджэння Юркі – 1 мая, расчулілася і расплакалася. Як цяжка ёй было. Яе настрой перадаўся і мне. Юрка, Юрачка – загінуў ты бясследна. І мы не ведаем твайго лёсу. А як ты перажываў з таго дня, калі вайна, пажар Мінска разлучылі нас. І не ведалі мы, што разлучыліся навекі».



*Я. Колас з жонкай і сынам Данілам (Перм, 1917)*

Мама была першым чытачом і крытыкам твораў свайго мужа. Бацька заўсёды ёй першай чытаў толькі што напісаны верш або ўрывак з паэмы, аповесці, рамана. Ён вельмі цаніў заўвагі жонкі, лічыўся з яе думкай. Бацька напісаў ёй шмат пісьмаў, прасякнутых палымянай любоўю і пяшчотай, прысвяціў ёй многа цёплых, лірычных вершаў.

Яе таксама вельмі любілі, паважалі і шанавалі ўсе, хто сустракаўся з ёю на жыццёвым шляху. Пра гэта многа напісана ва ўспамінах, у пісьмах. Прывяду радкі з успамінаў Петруся Броўкі. У жніўні 1942 года ён прыехаў у Ташкент, каб сустрэцца з Якубам Коласам. Вось што ён піша: «...А Мар'я Дзмітрыеўна, я тады не даведаўся чаму, настойліва прапанавала мне зняць вайсковае абмундзіраванне. Дала цывільнае, дзядзькі Якуба. – Вам так будзе спакайней, – казала яна. – А то рука забаліць, каб вітацца з вайскоўцамі. Я паслухмяна пераапрануўся, і праз некаторы час мы крочылі ўжо з дзядзькам Якубам па вуліцах Ташкента... Гадзін толькі цераз пяць мы вярнуліся да Мар'і Дзмітрыеўны. Яна нават крышку і ўпікнула нас за спазненне. Але не паспела гэта яшчэ мяне крануць, як узрушыла і ўсхвалявала другое: на канапе, на распасцёртым ручніку ляжала чысценькае, вымытае і выпрасаванае маё абмундзіраванне. Гэта яна зрабіла сама, пакуль мы гулялі. Друі раз у новым прыпірышчы дзядзькі Якуба ў мяне набеглі слёзы. Я цалаваў яе рукі, як роднае маці...»

Жыццё мамы было кароткае. Памерла яна 21 мая 1945 года ў Маскве, неўзабаве пасля нашай Перамогі. Часта марыла палятаць на самалёце. І толькі мёртвую яе даставіў самалёт з Масквы ў Мінск. Пахавана яна на Вайсковых могілках. Горка і балесна перажываў бацька заўчасную смерць свайго лепшага друга і спадарожніка.

З тугою і жалем прыгадваў сваё гора ў пісьмах да шматлікіх родных і знаёмых. Прысвяціў горача любімай жонцы некалькі вершаў. Першы з іх носіць назву «На ростанях», напісаны менш як праз месяц пасля смерці мамы:

*Шмат напісаць мне аб чым трэба,*
*Душа ж мая жыве адным:*
*Схавала радасць маю глеба*
*Пад ціхім крыжам дзеравяным.*

*І дзе ж знайсці мне тыя словы,*
*Каб выказаць жальбу маю!*
*Мне не стае душы паловы,*
*Свой боль я ў сэрцы затаю.*

*І буду думаць у тым болю,*
*Сум абымаючы наўкруг,*
*Што я не ўбачу больш ніколі*
*Цябе, мой лепшы ў свеце друг!*

*Было б лягчэй мне, каб я ведаў,*
*Што жаль мой дойдзе да цябе,*
*Але ж не знойдзе к табе следу*
*Мая туга нідзе, нідзе!*

*Апошні міг. Труна раскрыта.*
*Халодны дождж пайшоў гусцей,*
*А ў кусціку, расой абмытым,*
*Свой гімн табе спеў салавей.*

*17 чэрвеня 1945 г.*

І ўва многіх іншых вершах, у паэме «Рыбакова хата» ёсць раздзелы і радкі, прысвечаныя маці, поўныя кахання і пяшчоты, шчымлівага суму...

Праз адзінаццаць гадоў пасля смерці жонкі памёр і мой бацька Якуб Колас. Цяпер яны ўжо навекі разам...

**Даніла МІЦКЕВІЧ**

*(З кнігі «Любіць і помніць». Мінск, 2000)*

[1] Паводле знойдзенай апошнім часам метрыкі, Марыя Дзмітрыеўна нарадзілася 7 лютага. Яе бацька быў тады псаломшчыкам. Ва ўспамінах пра матчынага брата аўтар зазначаў: «Прыслалі псаломшчыка з Яраслаўскай губерні Расіі, як і многіх другіх дзеячаў царквы, накіраваных для ўмацавання праваслаўя на Беларусі і ў Польшчы пасля паўстання 1863 года».

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–23)*

### На нявольнай волі

Знаходзячыся ў *1908–1911 гадах* у астрозе, Якуб Колас здолеў і ў неспрыяльным становішчы напісаць нямала вершаў і невялікіх вершаваных апавяданняў і частку з напісанага надрукаваць. Калі Купалава паэзія за гэты час, за выключэннем чарнасоценцаў, была дружна ўхваленая і высока паднятая, то пра Коласавы вершы той пары пісалі з агаворкамі.

С. Палуян, «Наша Ніва», студзеньлюты 1910 года: «Паглыбела і паэтычная думка і ў Я. Коласа, але ненармальныя ўмовы яго жыцця не даюць яму магчымасці акуратна развівацца, а грамадзянству сачыць за яго развіццём». М. Багдановіч, «Наша Ніва» №№ 3–5 за 1911 год: «Цэльнай выглядае яна (кніга паэзіі "Песні жальбы". – **Г.Д.**) па светапогляду, моцна зросшыміся адзін з адным здаюцца яе вершы, але ёсць у ёй і якаясь акамянеласць: на працягу аж 4-х гадоў Колас не зрабіў значнага кроку ўперад і ў самых апошніх вершах пяе аб тым жа і так жа, як і ў пачатку сваёй працы. Вядома, турэмнае жыццё не дае яму развівацца і павялічыць круг сваіх тэм». Аўтар летапісу жыцця і творчасці Якуба Коласа М. Мушынскі гэтае выказванне М. Багдановіча назваў «не пазбаўленым суб'ектывізму». Можа, гэта і так. Але і М. Багдановіч, вельмі патрабавальны да ўзроўню паэтычнай творчасці, меў права выказаць сваю думку, нават супрацьлеглую іншай (напрыклад, рускага гісторыка, філолага славіста А. Пагодзіна (1872–1947), які ў «Вестнике Европы» за той жа год высока ацаніў зборнік вершаў «Песні жальбы», падкрэсліўшы, што змест яго больш складаны, чым Купалавы вершы і што па намаляваных ім карцінах «можна было б проста скласці альбом сялянскай, шэрай, не польскай і не вялікарускай, а зусім своеасаблівай "сярмяжнай" Беларусі...»

«Альбом», не «польскі» і не «рускі...» Хай сабе і «сярмяжны», але – «своеасаблівы!» Беларусі!!!

У лютым у часопісе «Современный мир» яшчэ раз (артыкул «О писателях-самоучках») прагучала слова М. Горкага: «Я звяртаю ўвагу скептыкаў на маладую літаратуру беларусаў – самага забітага народа ў Расіі, – на працу людзей, якія групуюцца вакол газеты "Наша ніва"».

У сакавіку–маі 1911 года Колас піша вершаванае апавяданне «Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў». Яно пабачыць свет толькі ў 1918-м у «Вольнай Беларусі» з падзагалоўкам: «З расказа "Новая зямля"», а пад тэкстам было пазначана: «Мінскі астрог». Пазней гэтае перапрацаванае апавяданне стане асновай 27–29 раздзелаў паэмы «Новая зямля» («Па дарозе ў Вільню», «Дзядзька ў Вільні», «Сябры на Замкавай гары»).

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*












# Наша «Спадчына»

Патрыятычны клуб «Спадчына» ў сваім складзе мае 4 гурткі: гісторыка-краязнаўчы «Спадчына», літаратурны гурток юных багдановічазнаўцаў «Жывое слова» і экалагічныя гурткі «Явар» і «Юны эколаг», у якіх займаюцца 45 удзельнікаў ад 4 да 12 гадоў.

З 2002 года я – староста краязнаўчага гуртка «Спадчына». На працягу гэтага часу разам са сваімі сябрамі па гуртку я вывучала прыродную, гістарычную спадчыну нашага мястэчка і яго ваколіц. Але пазнанне – усё ж не асноўнае ў нашай дзейнасці. Галоўнае – захаванне і прымнажэнне нашай спадчыны. Дэвіз нашага клуба «Калі не мы, то хто?» найперш датычыць дзейнасці нашага краязнаўчага гуртка. Мы шмат займаемся грамадска-карысная працай, паказваючы землякам прыклад станоўчага стаўлення да прыродных і гістарычных каштоўнасцей, якія мелі шчасце захавацца аж да нашых дзён.

Асноўны наш клопат – догляд месца пахавання сям'і Пратасевічаў (пачатак XX стагоддзя) і тэрыторыі могілак, што прылягае да яго. Гэтае месца дзесяцігоддзямі ператваралася ў жудасны сметнік, і толькі нашымі намаганнямі гэтае святое месца на старадаўніх уніяцкіх, а пасля каталіцкіх могілках набыло прыстойны выгляд, варты памяці нашых слынных землякоў.

Вялізны сметнік уяўляюць сабой і сучасныя праваслаўныя могілкі. Гэта абражае памяць пра землякоў. Таму мы прынялі дзейсны ўдзел у навядзенні тут парадку: прыбралі адзін з сямі сметнікаў, што ёсць на могілках. У далейшым работу тут працягнем.

Не забываем і пра месцы расстрэлу і пахавання 10 тысяч яўрэяў, жыхароў мястэчка і ваколіц, растраляных у 1942–1943 гадах фашыстамі. Тры помнікі, тры вялікія брацкія магілы, дзе знайшлі свой апошні прытулак мірныя жыхары... Аб гэтай трагедыі нельга забываць. Заўжды ля падножжа помнікаў кветкі ад патрыятычнага клуба «Спадчына». І не забываем прыбраць гэтыя месцы ад вынікаў ветрабояў – рознага ламачча.

Займаемся грамадска-карыснай працай не толькі ў час суботнікаў, але ў вольны ад вучобы час, па выхадных, у час канікулаў. Прымаюць удзел у працы і нашы бацькі, бабулі, святар праваслаўнага храма. Нас вельмі радуе, калі і дарослыя побач – гэта надае большую значнасць нашай справе ў вачах землякоў.



*Каля аднаго з помнікаў, што даглядаем*

## Роздум ля помніка

*Астравок зялёны ў Траецкім,*
*Дрэў шумлівых стройныя рады.*
*Затаіўшы імя тваё ў сэрцы,*
*Я ізноў спяшаюся сюды.*

*Ты стаіш, задумлівы і строгі,*
*І пагляд твой скіраваны ўдаль.*
*Бачацца табе палі-разлогі,*
*Васількі, што ў вершах апяваў.*

*Радзімы нашай сціплая краса*
*Скарыла сэрца чулае тваё,*
*Як птушак цёплая вясна,*
*З далёкіх клікала краёў.*

*І ты прыйшоў. Прынёс к яе нагам*
*Любоў, адданасць, песні, мары,*
*Каб толькі ёй спяваць, яе кахаць,*
*Жыццё аддаць за родныя абшары.*

*Ды лёс з Радзімай разлучыў,*
*Замоўкла песня сына,*
*І на чужыне ён спачыў.*
*Плач... Плач, мілая Радзіма!*

*...Стаю ля помніка адна,*
*Сюды прыехаўшы здалёк.*
*У душы – надзея і туга,*
*У руцэ – самотны васілёк...*

**Алена СТАНЦАЛЬ,**
**8 гадоў, староста гісторыка-краязнаўчага гуртка клуба «Спадчына» Дварэцкай СШ Дзятлаўскага раёна**

# Салавей – птушка года-2007

***Так ужо здарылася, што птушку года я сёлета выбірала... сама! І хоць асаблівых спрэчак на гэты конт паміж сябрамі Рэспубліканскай Рады ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» не ўзнікла, усё роўна прыемна, што яна мая, гэтая птушка-гераіня, што ён – мой, гэты птах з пяшчотным і рамантычным імем – салавей...***

Прайшла зіма, прамільгнулі вясновыя месяцы. Але ўсё яшчэ чуецца то тут, то там са спляцення маладых чаромхавых галінак салаўіная песня – быццам апафеоз вясны. Тысячы гадоў хвалюе яна паэтаў і закаханых – напэўна, ніводная птушка не ўзгадваецца так часта ў сусветнай паэзіі, як салавей. І, напэўна, мала да якой птушкі знаўцы птушыных спеваў прыязджаюць на... канцэрты, каб паслухаць, напрыклад, знакамітых «курскіх» ці «кіеўскіх» спевакоў. Праўда, сёння лепшыя салаўі жывуць ужо не пад Курскам ды Кіевам (дзе амаль усе артысты-рэкардсмены сталі здабычай птушкаловаў), а ў Ленінградскай вобласці. Справа ў тым, што гэтыя птушкі вучацца спяваць адна ў адной, а дакладней, адзін у аднаго, бо спяваюць толькі самцы. Цікавы сюжэт быў зняты нядаўна адным з маскоўскіх тэлеканалаў: вопытны салоўка ў сталічным парку навучаў свайму высокаму мастацтву аж пецярых суродзічаў! А тыя размясціліся на бліжэйшых кустах зусім побач з настаўнікам – як вучні на ўроку спеваў.



Песня салаўя здзіўляе чысцінёю таноў, выразнасцю асобных каленаў, яснасцю, сілай і разнастайнасцю гучання. Некаторыя спрактыкаваныя самцы могуць выконваць аж да пятнаццаці каленаў без адзінага паўтору. Спяваць яны пачынаюць, як толькі з'яўляецца зеляніна на дрэвах і кустоўі. У маі салавей спявае ледзь не суткі напралёт, але, вядома, найбольш моцнае ўражанне на слухачоў робяць менавіта начныя пошчакі, калі ўжо не спявае ніводная іншая птушка, вакол цішыня і толькі пахі квітнеючых садоў разліваюцца ў паветры.

І хоць пачуць салаўя няцяжка, убачыць гэтую асцярожную птушку даводзілася нямногім. Нават у артыстычным самазабыцці салавей заўсёды застаецца каля самай зямлі, хаваючыся ў вязі галін. Ды і афарбоўка ў яго болей чым сціплая – аліўкавых і шэра-бурых адценняў, з рудаватым хвастом. А вось вочы вялікія і выразныя. Салаўіхі падобныя да самцоў. І гняздо – звычайна з сухога мінулагодняга лісця – будуюць абое. Яно заўсёды знаходзіцца на зямлі, найчасцей у вільготным лесе з густымі зараснікамі кустоў, часта недалёка ад вады. Кладка складаецца з чатырохпяці вельмі прыгожых, шакаладнага колеру яек, якія наседжваюцца каля двух тыдняў. Дарослыя птушкі харчуюцца рознымі насякомымі (мурашамі, даўганосікамі, лістаедамі) і ягадамі, а вось птушанятаў сваіх яны выкормліваюць толькі насякомымі і некаторымі дробнымі бесхрыбетнымі. Яшчэ не ўмеючы лятаць, маладыя салаўі пакідаюць роднае гняздо і, быццам мышаняты, порстка бегаюць сярод травінак, затойваючыся пры любой небяспецы. Трэба зазначыць, што салавей – адна з тых нямногіх птушак, якія перастаюць спяваць, як толькі птушаняты з'яўляюцца на свет. Такім чынам, з сярэдзіны чэрвеня, калі і самцам спяваць ужо няма калі, чароўныя салаўіныя спевы ўжо чуюцца рэдка.

Зімуюць нашы салаўі ў Афрыцы. На Беларусь звычайна вяртаюцца на пачатку мая, хоць сёлета першыя назіранні за прылётам салаўёў былі дасланы з Брэсцкай вобласці яшчэ ў 3-й дэкадзе красавіка. Колькасць беларускай папуляцыі салаўя звычайнага, альбо ўсходняга Luscinia luscinia (так па-навуковаму завецца наш спявак) складае прыкладна 160 тысяч пар. Чакаецца, што сёлетняя нацыянальная кампанія па ўліках салаўя дазволіць удакладніць гэтыя лічбы.

Мала хто ведае, але на Беларусі сустракаецца яшчэ адна птушка з салаўінага роду – кралька (па-руску – варакушка), якая таксама трымаецца вільготных біятопаў і можа быць убачана таксама даволі рэдка, але ўжо не з-за сціплай афарбоўкі (наадварот, яна выглядае вельмі эфектна), а з-за невялікай колькасці папуляцыі – кралька занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі.

## Чаму салавей – птушка года?

*Па-першае, салавей агульнавядомы, яго песню цяжка зблытаць з чыёй-небудзь іншай. Па-другое, беларуская папуляцыя салаўя перажывае зараз пэўныя цяжкасці, і ясна паўстала неабходнасць звярнуць увагу грамадскасці і прыродаахоўных арганізацый на праблемы гэтага віду. Шмат гнёздаў салаўя гіне пры выкошванні расліннасці, у гарадах у траўні-чэрвені – ад наземных драпежнікаў. Вырубка кустоўя знішчае гнездавое асяроддзе птушак. Трэба дапамагчы нашым салаўям! Нарэшце, хто, як не салавей, можа стаць лепшым аб'ектам у справе эстэтычнага выхавання як дзяцей, так і дарослых? Апошняе – зусім не жарт. І дарослых таксама...*




***Прыязджайце ў Слонім паслухаць салаўёў над Шчарай!***
*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

## Сустрэнемся ля фантана, паслухаем салаўя...

Як і ў некалькіх іншых гарадах Беларусі, 19 мая ў нашым горадзе прайшла доўгачаканая імпрэза пад назвай «Салаўіная ноч у Слоніме». Доўгачаканая таму, што да яе доўга рыхтаваліся, нават адмянілі некаторыя іншыя мерапрыемствы аддзялення. І хвалюючая – усё-такі ўпершыню праводзім такую сустрэчу, ды яшчэ і для незнаёмай аўдыторыі.

На шчасце, усе трывогі аказаліся марнымі, таму што ў прызначаны час (а пятай гадзіне вечара) і да прызначанага месца ў парк прыйшло каля 35 чалавек моладзі.

Трэба сказаць, што з прызначанага часу ды прызначанага месца і пачалася ўся рамантыка! Несумненна, ужо гэтым мы ў пэўнай ступені заінтрыгавалі публіку. Як жа! Запрашэнне – як на спатканне: сустрэнемся ў парку, ля фантана, і будзем слухаць салаўя! І на працягу ўсёй сустрэчы мы стараліся гэты настрой падтрымліваць. І ідэяй аб тым, што салавей – гэта рамантычная птушка закаханых, быў прасякнуты ледзь не кожны момант запланаванага намі сцэнарыя. Нават кароткая прэзентацыя дзейнасці АПБ, нават экскурсія (для тых, хто пажадаў пачуць «віноўніка ўрачыстасці» з больш блізкай адлегласці), нават віктарыны, гульні, конкурсы і ўласна расповед пра салаўя кшталту невялічкай лекцыі – і тыя – чакана ці нечакана – афарбаваліся ў лёгкі флер рамантыкі...

Дарэчы, пра «чакана-нечакана». Сам узрост удзельнікаў вызначаў настрой сустрэчы апрыоры, бо прыйшлі да нас вельмі маладыя хлопцы і дзяўчаты. А калі яшчэ ўспомніць, што гэта быў першы па-сапраўднаму цёплы майскі вечар у Слоніме, калі ўспомніць пра квітнеючы бэз... Уявілі сабе? А калі да гэтага дадаць спевы рамантычнай птушкі... Як тут настрою не зацвісці?

«Цвіком» жа праграмы ў нас атрымалася ўручэнне абяцаных адмысловых прызоў для закаханых пар. Праўда, такіх было нямнога, але тым больш выразнай і прывабнай атрымалася «цырымонія». Самай цікавай парай сталі маладыя муж і жонка, якія прыйшлі ў парк разам з трохгадовым сыночкам. І падарункі ад АПБ і – рамантычнай птушкі салаўя – атрымалі на памяць, вядома, усе трое.

Гэты светлы момант стаў развітальным акордам «Салаўінай начы ў Слоніме».

А праз некалькі гадзін у кожнага з нас пачалася ўжо *свая* салаўіная ноч. У мяне яна была самая сапраўдная...

***Святлана ПРАКОФ'ЕВА,***
***старшыня Слонімскага раённага аддзялення АПБ***








*(Заканчэнне.* *Пачатак на стар. 1)*

А калі ў лес ішлі браты альбо сябрукі, можна было ўзброіцца «аўтаматамі», «пісталетамі», набіць кішэні гранатамі-шышкамі – і наперад, у зарослыя імхом акопы гуляць у вайну. А якое шчасце знайсці ў закінутай зямлянцы лісіную нару, патыцкаць туды драўлянай зброяй, закідаць схованку хвастатага ворага «гранатамі»!..

Але аднойчы бацька прывёў мяне да металічнага крыжа, які змрочна стаяў сярод кустоўя і дрэў на ўзбочыне Глінянскага Шляху (лясной дарогі паміж вёскамі Верхні Церабяжоў і Глінка, што ў Столінскім раёне).

– Вось тут адразу пасля вайны на нямецкай міне падарвалася некалькі хлопчыкаў. Прыкладна твайго ўзросту... Дагуляліся...

Тыя словы вельмі ўразілі. Зарослыя імхом акопы ўжо не так вабілі, насцярожвалі. А вось якія ў тых хлапчукоў былі забаўкі, я даведаўся зусім нядаўна ад свайго дзядулі Мікалая Адамавіча Грэчкі, 1932 г.н.:

– Пасля вайны мы, малыя, лазілі па лесе і шукалі снарады, зброю, патроны. От чым займаліся... А на тым месцы,



дзе стаіць крыж, узарваліся хлопцы. Яны таксама шукалі снарады, разбіралі іх. Адзін не заўважыў капсуля, які быў пад нізом. Цэлы склад узарваўся. Брата майго параніла, адкінула прыкладна метраў на 50 у гушчар. Узрыў быў такі, што ўтварылася варонка метраў пяць глыбінёй, а ўсе сосны вакол былі пазрэзаны.

Потым да нашай размовы далучылася мая бабуля Настасся Фадзееўна Краўчук, 1932 г.н. Яна ўзгадала сваё дзяцінства, сваю вайну:

– У лесе скрозь былі міны. Адна баба сабрала нас малых ды хацела весці ў ягады. А ёй людзі кажуць: «Ты што, захацела дзяцей паўзрываць!» Як стаў фронт, нашы хаты паразбіралі на бункеры. Людзі – хто ў лес, а каго пазганялі на Відзібор. Мы зімою ўцяклі. Аднойчы людзі пабачылі немцаў – і ўрассыпную. Тыя наўздагон стрэлілі з аўтамата. Добра помню, як аднаго дзядзьку параніла ў жывот. Ён ляжыць ды стогне, просіць: «Ох, паночкі, дабейце мяне!» А тыя немцы стаяць і рагочуць, а адзін адышоў убок ды плача. От, як было.

Жылі ў станочках – такіх шалашах, зверху накрытых яловымі лапкамі. Будавалі іх сярод снегу, сярод балота. Мы дзеці плачэм, на печ хочэм. Палілі вогнішча пасярэдзіне. Ой, а як кароста пальцы параспірае, да гной! Цяпер усялякія парашкі, ёсць чым паўмывацца, а мы таго не бачылі. А ў Дубаі, як былі ў бежанцах, то панападаў на нас тыф. Ой, не хочу я гэта ўспамінаць, бо толькі сэрца растрывожыш...

Пасля доўгага маўчання бабуля працягнула аповед:

– Усялякага бывала. У начы нашыя пераходзілі да рускіх у Бухлічы, на той бераг Гарыні, дык немцы замініравалі поле. Каля нас непадалёк стаяў у вайну сімахвор. Партызаны неяк падыйшлі ўзарваць яго. Калі падкладвалі міну, яна рванула. Потым людзі казалі, калі б знішчылі семахвор, то немцы расстралялі ўсе хутары наўкола. А як пайшлі гэтыя бульбаўцы ды бэндэраўцы!.. Адну сям'ю вырэзалі, бо сын быў у партызанах. Чаго толькі не было. Адно адное рэзала, давіла... А як у Германію зганялі!.. Таварнякі падгоняць, моладзь са Століна і адусюль пахапаюць. А тыя равуць, а мацяры папрыпадаюць да рэльсаў ды таксама плачуць. Унь твайго прадзеда Адама Мікалаевіча таксама забралі ў Германію, а пасля вайны папацягалі па розных райкамах. Даводзілася даказваць, што сілаю забралі. А на дзяўчат, якія працавалі пры немцах ды ў Германіі, што казалі потым, нават сорам успамінаць. Немцы выганялі людзей капаць ямы, траншэі. Дык нашы самалёты лёталі і раскідвалі лісты. Добра помню, як на іх было напісана:

*Ох, вы дамы-дамочкі,*
*Не капайце на нас ямочкі,*
*Бо як пойдуць нашы таночкі,*
*То засыплюць вашы ямочкі.*

Ў вайну хапала рознага. І не толькі гора. Таму не менш цікава было слухаць і такое:

– Прыехала аднойчы баржа, – ужо з вясёлым настроем расказваў дзядуля. – Немцы пазганялі мужчын яе разгружаць. А нашым не хочацца. Папрацуюць крыху і пачынаюць курыць. Немец не вытрымаў, ды як дась паверх галоваў чаргу з аўтамата, як крыкне: «Айн мінута – цвайн палена!» Гэта значыць, за хвіліну разгрузіць два бярвення. Тую працу праз гадзіну скончылі, а так толькі б за дзень управіліся. Ці яшчэ быў выпадак. Непадалёк у Гарадзішчах (цяпер гэта Украіна) адна жанчына пайшла па ягады ды зачапілася за дроцік. А чалавек пайшоў яе шукаць. Дык таксама зачапіўся, а як яго падняло мінай уверх, то ляцеў і крычаў: «Параска, ужэ й мэнэ



няма-а-а!..» Помню, як зімою з хлопцамі каталіся на санач-ках з гары напераганкі, скатваліся на лёд ракі. От я так і шуснуў у ледзяную ваду. Але выцягнуў немец. А потым як даў капняка, што бег я, не аглядваючыся, да самай хаты, а потым хуценька ўскочыў на печ. Вось такое было...

...Нядаўна, праз колькі дзён пасля Радаўніцы, давялося зноў пабываць на тым трагічным месцы. Прыгадаць



дзяцінства, бацькавы словы. Цяпер крыж выглядаў не так змрочна. На свята людзі ўпрыгожылі яго рознакаляровымі стужкамі. А непадалёк, сярод гушчару, знайшоў кавалкі гільзаў ад снарадаў. Старыя, паржавелыя, пакрытыя імхом яны ляжалі ў акопе, відаць, колішняй агнявой кропцы. Прыгадаліся дзедавы словы, ягоныя пасляваенныя забаўкі.

Гэтыя снарады ўжо не стрэляць... Таму і поўзаюць па іх мурашы.

**_Ігар ГРЭЧКА,_**
**_фота аўтара_**

***Нядаўна атрымалі вялікую падборку вучнёўскіх допісаў, вершаў, артыкулаў і апавяданняў ад даўніх чытачоў з Ільянскай СШ з краязнаўчым ухілам імя А.А. Грымаця Вілейскага раёна. Дзякуй ім ды іхнім настаўнікам, сябрам нашай газеты, якія заўсёды спяшаюцца падзяліцца сваімі адкрыццямі з чытачамі «Краязнаўчай газеты». Спадзяемся, іхні прыклад будзе натхняльны. То чакаем лісты і з іншых школ Беларусі!***

***Сёння друкуем два допісы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне.***

## Алімпіяда і вайна

### *Успаміны маёй бабулі*

*Маю бабулю завуць Алімпіяда Канстанцінаўна Шачыкава, дзявочае прозвішча – Мароз. Нарадзілася ў 1930 годзе ў Ілы. Яе бацька Канстанцін працаваў сталяром, а маці займалася хатняй гаспадаркай. У сем гадоў бабуля пайшла вучыцца ў школу – гэта было яшчэ пры Польшчы, і ў школе ўсе прадметы выкладаліся на польскай мове.*

*Калі ёй было 11 гадоў, пачалася вайна. Тады з бабуляй і адбылася такая гісторыя.*

*Аднойчы яна са сваім братам Фаустам гуляла на вуліцы ў пяску. А па дарозе ў гэты час гналі яўрэяў. І дзеці апынуліся ў натоўпе людзей, які немцы загналі ў гета. Яно знаходзілася ў Ілы там, дзе цяпер навучальны корпус сельскагаспадарчага тэхнікума.*

*Калі бабуліна маці дазналася, што яе дзеці аказаліся ў гета, вымушана была хадзіць па хатах і збіраць подпісы жыхароў вёскі. На наступны дзень маці прынесла подпісы немцам, і яны дзяцей адпусцілі.*

*У час вайны бабуля таксама вучылася ў школе, школа была беларускай, але яна працавала нядоўга – толькі адзін год.*

*Яшчэ адна страшная трагедыя адбылася ў той час.*

*У бабуліным доме на кватэры жыла яўрэйская сям'я Баярэвічаў. Яны працавалі ў немцаў, але мелі сувязь і з партызанамі. Аднойчы сюды прыйшлі немцы на чале са сваім камандзірам Блюхерам. З ім, як заўсёды, быў вялікі сабака – аўчарка Інга. Бабуля ўбачыла немцаў на вуліцы, калі тыя ўжо падыходзілі да хаты. Яна ўбегла ў дом і сказала пра гэта. Алімпіяда разам з маці выскачылі праз вакно на вуліцу і паспелі ўцячы. А маці з сынам – Баярэвічы былі ў другім пакоі і ўцячы не змаглі. Блюхер знайшоў іх і спачатку забіў сына, а калі маці кінулася на яго, то застрэліў тут жа і яе.*

*Калі сабака злізаў з падлогі кроў, Блюхер сышоў з хаты. А забітыя людзі ляжалі. На наступны дзень іх таемна пахавалі на яўрэйскіх могілках за вёскай.*

*Бабуля яшчэ памятае, як да іх уначы прыходзілі партызаны. Яны грукалі ў дзверы, казалі: «Мароз, адкрый, гэта мы, свае». Бабулін бацька тады адчыняў дзверы. Давалі партызанам ежу, адзенне, абутак.*

*А яшчэ прыходзілі і бандыты са зброяй, казала бабуля. Яны рабавалі, лаяліся, крычалі, пагражалі, што ўсіх паб'юць і хату спаляць. Бандыты забіралі ўсё. Было вельмі страшна.*

*А я думаю, што тыя, хто здзекуюцца з людзей, абавязкова будуць мець кару. Заўсёды.*

**_Павел ПУСТАВІТ,_**
**_8 «Б» клас_**

## У Абадоўцах быў бой

*У Абадоўцах у другой палове лістапада 1942 года ўначы быў бой. Пра яго цяпер мала хто ведае, нават многія цяперашнія жыхары вёскі нічога не чулі... Што ж адбылося тут больш за 60 гадоў таму? Для гэтага скарыстаемся ўспамінамі Яўгена Фёдаравіча Мірановіча, камандзіра партызанскага атрада імя К.Я. Варашылава брыгады імя Фрунзе.*

*Акупанты стварылі ў Абадоўцах сваю харчовую базу. Яе ахоўвалі немцы і паліцэйскія. Месца было выбрана зусім невыпадкова: тут быў вялікі і багаты маёнтак пана Багдановіча, шматлікія памяшканні. Захопнікі звозілі сюды і захоўвалі самую розную сельскагаспадарчую прадукцыю. Такім чынам, гэта быў важны аб'ект у немцаў. Партызаны ведалі пра гэта і марылі пра разгром гарнізона і захоп харчавання.*

*Аперацыя прайшла паспяхова. Камандаваў ёй намеснік камандзіра партызанскай брыгады імя Фрунзе Паўлін Ізмайлавіч Карабіцын. Партызаны з двух бакоў акружылі вёску. Гітлераўцы сядзелі ў каменным будынку былога спіртзавода. У сценах былі зроблены амбразурныя гнёзды на выпадак абароны гэтага памяшкання. Але славак Штэфан Златоўскі, а таксама Грыша Кучко, Аляксей Станкевіч, Люба Селіванава змусілі іх хутка замоўкнуць. Яны падпаўзлі да амбразур і закідалі іх гранатамі. Так і выбілі фашыстаў адтуль. Усё рабілі хутка, каб не падышла падмога з ільянскага гарнізона. Партызаны выявілі храбрасць і знаходлівасць. Адважна змагаліся Франц Быкоўскі, Мікалай Ліс, Пётр Галецкі, Міхаіл Ясцехін, Іван Матусевіч, Сяргей Міронаў, Ігнат Кучко, Павел Аістаў, начальнік разведкі Васіль Мордас, Абрам Александровіч, Яўген Мірановіч і іншыя.*

*Будынкі былі захоплены. Недабітых ворагаў узялі ў палон. Партызаны захапілі зброю, боепрыпасы, прадукты харчавання. А іх было шмат. Фрунзенцы забралі 56 коней, шмат жывёлы (кароў, свіней, авечак), 100 падвод з аўсом і ячменем – усяго каля 50 тон зерня. Усё гэта партызаны вывезлі ў лес у партызанскую зону і там раздалі насельніцтву вёсак Старынкі, Мардасы, Лукавец, Навасёлкі. Людзі дзякавалі партызанам.*

*Так народ помсціў лютаму акупанту.*

*Я чытала кнігу «Памяць. Вілейскі раён». У ёй чамусьці мала ўзгадваецца пра абадоўскі бой і пра падпольшчыкаў, якія, рызыкуючы жыццём, вялі барацьбу з ворагам у Ілы ў час акупацыі. Гэта няправільна. А некалі ж пра ільянскіх падпольшчыкаў пісалася ў газеце «Шлях Перамогі», і артыкул Уладзіміра Кажамякі «Непахісныя» цяпер захоўваецца ў нашым школьным краязнаўчым музеі.*

**_Святлана КОСАК,_**
**_8 «Б» клас_**





## Бяспечнае лета для вашых дзяцей

*Лета – час школьных канікулаў, калі дзеці часта апынаюцца самі па сабе. Як у горадзе, так і за ім. Таму не забывайце глядзець, чым займаюцца і з якімі цацкамі гуляюць вашыя нашчадкі. Бо нельга быць упэўненым, што дзіця, калі застанецца адно дома, не вырашыць пагуляць з запалкамі альбо запальнічкай, не зацікавіцца электрычнай плітой і чайнікам.*

*Не дапускайце, каб дзеці гулялі з пажаранебяспечнымі матэрыяламі і рэчамі. І на прыродзе, калі вы заўважылі, што недзе побач дзятва расклала вогнішча, гуляе з запалкамі, іншымі вогненебяспечнымі рэчамі, не заставайцеся абыякавымі. Можа быць, ад вашых дзеянняў залежыць іх здароўе альбо нават жыццё.*

*Надавайце дзецям больш увагі, сачыце, як яны праводзяць час, чым цікавяцца. І лепш за ўсё, калі ў вас няма часу на належны догляд, уладкуйце сваё дзіця ў школьны аздараўленчы летнік. Напамінайце пра небяспеку пажараў і элементарных дзеяннях у выпадку іх узнікнення.*

**Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ, інспектар ЦРАНС**

## Барысаву – 880



***Уздоўж***

**1**. Найбуйнейшая жывёла на тэрыторыі Беларусі. Водзіцца ў Бярэзінскім запаведніку, занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі. **3**. Старажытная эмблема Барысава, якая была нададзена гораду ў 1792 г. **6**. Пасееш буйным зярном, будзеш з хлебам і... (прык.). **8**. Забіты ў зямлю кол, з дапамогай якога плытагоны на р. Бярэзіне замацоўвалі плыт каля берага. **10**. «... – Нёман». Французскі авіяполк, які ўдзельнічаў у вызваленні г. Барысава ад фашысцкіх захопнікаў. **11**. Акцыянернае таварыства г. Барысава, якое выпускае аўтатрактарнае абсталяванне, электраматы і інш. (абрэвіятура). **13**. Паэма, якую Я. Купала напісаў у 1934 г. у час наведвання г. Барысава і раёна. **14**. Вызначэнне аўтара вершаваных твораў, ураджэнца в. Зембін І. Харыка, беспадстаўна рэпрэсаванага ў 1937 г. і рэабілітаванага ў 1956-м. **19**. Мастацкая... Вытворчасць мастацкіх вырабаў з металу, вядомая на Барысаўшчыне са старажытных часоў. **20**. Магдэбургскае... Статус горада ў ВКЛ, які быў нададзены Барысаву ў 1563 г. **22**. Рака ў Барысаўскім раёне, правы прыток Бярэзіны. **23**. Абрубак дрэва. **24**. Навучанне грамаце непісьменных, якое было разгорнута на Барысаўшчыне ў 20-я гады XX ст. **27**. Кіраўнік факультэта ў ВНУ. **28**. Умацаваная крэпасць, якая існавала ў г. Барысаве ў XIV–XVIII стст. **30**. Распаўсюджаны на Барысаўшчыне і ў іншых месцах Беларусі звычай перагароджваць дарогу вясельнаму поезду з мэтай атрымаць выкуп. Іншая назва – рагатка, застава. **31**. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесці «Палескія рабінзоны» і інш., музей якога створаны ў в. Бытча Барысаўскага раёна. **33**. Старое рэчышча Бярэзіны і іншых рэк. **36**. Ежа з дробна пасечанай агароднiны, грыбоў і інш. **40**. Капітан, камандзір коннай роты, які праявіў выдатную мужнасць пры абароне г. Барысава ў вайну 1812 года. **41**. «Наш...» Часопіс Барысаўскага таварыства краязнаўства, які выходзіў у 20-я гады XX ст. **42**. Пасёлак у ваколіцах г. Барысава, у якім у **1941** г. было заснавана танкавае тэхнічнае вучылішча. **43**. Шведскі кароль, які ў час руска-шведскай вайны (1700–1721 гг.) наведаў Барысаў. **44**. ...грубая. Водарасць, сустракаецца ў возеры Палік, нагадвае з выгляду хвошч. Занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі.

***Упоперак***

**1**. Партызанская... Тэрыторыя, якая ў часы акупацыі фашыстамі Барысаўшчыны знаходзілася пад кантролем партызанаў. **2**. Грузавое несамаходнае судна, многа якіх у мінулыя часы перавозілі грузы па р. Беразіне. **4**. Адна з некалькіх паездак (разм.). **5**. Усходнеславянскі паэт, песняр. **7**. Рэчка, якая існавала ў сярэднявеччы, і па назве якой, згодна з меркаваннямі археолага М. Ткачова, узнікла назва г. Барысава. **9**. Вядомая французская мастачка беларускага паходжання, ураджэнка в. Зембін, заснавальніца карціннай галерэі ў гэтай вёсцы. **11**. Назва помніка прыроды, вялізнага каменя, які знаходзіцца ў наваколлі вёскі Мсціжы. **12**. Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр. Вызначыўся пры вызваленні Барысава, Мінска. Ураджэнец Барысава, ганаровы грамадзянін гэтага горада. **15**. Вядомы беларускі скульптар, прафесар. Аўтар шматлікіх помнікаў, мемарыяльных комплексаў. Ураджэнец г. Барысава. **16**. Самадзейны драматычны калектыў, які быў створаны ў г. Барысаве ў 1933 г. (абрэвіятура). **17**. Пераважны тып рэльефа тэрыторыі Барысаўскага раёна. **18**. Спёка (разм.). **20**. Прагляд, навучанне чаму-небудзь. **21**. Род папараці, распаўсюджаны ў лясах Барысаўшчыны. **25**. Імя беларускага фалькларыста, этнографа, бацькі паэта М. Багдановіча, ураджэнца Халопенiч былога Барысаўскага павета. **26**. Рака на паўднёвым усходзе раёна, прыток р. Бобр. **29**. Жаночае старадаўняе імя. **32**. Спосаб хады, бегу каня. **34**. Самы высокі мужчынскі голас. **35**. Верхні слой скуркі пладоў цытрусавых. **38**. Крэдытная ўстанова, якая ўзнікла ў Барысаве ў 1899 г. **39**. Лісцевае дрэва, якое ўпрыгожвае вуліцы г. Барысава.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск**

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГАНЦАВІЧЫ** – горад, цэнтр Ганцавіцкага раёна, на рацэ Цна. За 250 км ад Брэста, мае чыгуначную станцыю на лініі Баранавічы–Лунінец. Яшчэ ў 2-й пал. XIX ст. былі вёскай Слуцкага павета, уладаннем графа С. Чапскага (1779–1844; вядомы вайсковец). Калі пабудавалі палескія чыгункі, сталі мястэчкам, дзе з'явіліся смалакурня, пільня, гута. Паводле перапісу 1897 года тут было 633 жыхары. У 1921–1939 гг. у складзе Польшчы, з пачатку 1940-га – гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У Другую сусветную вайну акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, былі разбураныя. У 1962–1966 гг. у складзе Ляхавіцкага раёна. З 6 снежня 1973 г. горад.

*Сябры-краязнаўцы з Ганцавіч і з Ганцавіцкага раёна, калі ласка, дапоўніце гістарычны і сучасны партрэт горада і ягоных ваколіц, раскажыце пра падзеі, што тут адбываліся, пра страчаныя і захаваныя помнікі культуры, пра слаўных людзей краю!*

**ГАНЧАРСТВА** – выраб рэчаў побытавага і дэкаратыўна-прыкладнога прызначэння з абпаленай гліны. Пачаткі яго (ручная лепка, абпал на вогнішчы) з глыбокай даўніны, з ранняга неаліту (кераміка ляпная). Калі ўзніклі, пашырыліся ганчарны круг і горн, ганчарства стала спецыялізаваным рамяством (на беларускіх землях з X ст.). Напачатку ганчары выраблялі самы неабходны для штодзённага ўжытку посуд, пазней асвоілі і іншыя віды (кафля і інш.).

Што датычыць гаспадарчага посуду, то ён меў самы розны ўжытак: для гатавання ежы былі гаршчкі, макотры, латушкі, пражэльнікі, рынкі, формы. Для захоўвання і перавозкі яе – карчагі, слаі, гарлачы, глякі, спарышы. Сталовы посуд складалі збаны, талеркі, міскі, кубкі, хлебніцы, маслёнкі. Былі гліняныя рукамыйнікі і паілкі, вазоны, вазы, букетнікі, розныя цацкі. Гэта і іншае ў XVII–XVIII стст. у Беларусі было на высокім узроўні. Ім вызначаліся майстэрні ў Бабруйску, Крэве, Барысаве, Віцебску, Гродне, Глыбокім, Іваншы, Капылі, Копысі, Магілёве, Шклове, Мінску, Міры, Дзісне, Полацку і ў іншых мясцінах. У многіх з іх былі не толькі майстэрні, але і ганчарныя цэхі. Тагачасны посуд адлюстроўвае і мясцовыя (рэгіянальныя), і заходнееўрапейскія мастацкія плыні. На думку даследчыкаў (Я. Сахута і інш.) у асноўным беларускае народнае ганчарства ставіла на мэце не столькі пышнасць, колькі практычнасць, за аснову прыймала шыр, цыліндр, конус, але надавала вялікае значэнне пластычнасці і скульптурнасці, адлюстраванню якасцей матэрыялу. У гэтым сэнсе вызначаліся *Бабінавіцкая, Благаўская, Дубровенская, Гарадняпская, Поразаўская, Пружанская* керамікі. У розных рэгіёнах дзеля эстэтыкі вырабы па-рознаму аздаблялі, падкрэслівалі колеры.

У XX ст. ганчарства пачало калі не занепадаць, то страчваць сваё даўняе практычнае значэнне і выконваць пераважна дэкаратыўна-мастацкія функцыі.



*Ганчарныя кругі: ручны з нерухомай воссю (уверсе); нажныя – з нерухомай воссю (1–4) і рухомай (5)*

**ГАРАВІК** – паводле беларускіх народных паняццяў спявак, які ў шматгалосых спевах меў салiруючы голас («падводзіць», «верх браць»). Такі тэрмін у свой час шырока ўжываўся на ўсходнім Палессі, дзе было развітае падгалосачнае шматгалоссе.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03 E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 21.06.2007. Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 740. Тыраж 1380 асобнікаў.